ГОРАДНА. 12 асоб, што не дзяржалі ахайна свае патрэбныя каморкі, аштрафаваны.

САПОЦЬКІН, Горадненскага п. Арыгінальны спосаб заплаціць свой доўг выдумаў работнік Аляксандар Ліс. Ен быў вінаваты свайму таварышу Кульвінскаму сто рублёў. Яны пайшлі разам красьці сьвіню. У аднэй гаспадарцы ім папалася ў рукі вялізная сьвіня вагой 7 пудоў, каторую яны прадалі за 300 мар. Купіўшы яе, аднак збаяўся свайго паступку і выгнаў купленую сьвіню вон. Там знайшоў яе законны гаспадар і ўзноў запёр яе ў свой сьвінарнік. Аляксандар Ліс астаўся вінен 100 руб. Кульвінскаму. Апрача таго, абодва пападуць пад суд.

БАЯРЫ. Тут у двох сялян ўкралі двое каней.

БЕЛАСТОК. 6-га гэтага месяца ў 9 гадз. ўвечары на Горадненскай вул. 5-б знойдзена пяцёхтыднёвае дзіця з запіскай у жыдоўскай мове: „абрэзаны ў дзень посту Гдалію, імя Абрам, законнай жыдоўскай жаніцьбы“.

БЕЛАСТОК. За апошнія дні тут украдзены 8 раменных паясоў.

На Пачтовай вуліцы выкралі злодзеі з аднае кватэры ўсю электрычную прыладу.

МІЛЕВІШКІ, Беласт. п. 39-годная Міхаліна Паўлоўская займалася профэсыанальна старцаўством (жабрацтвам), пры гэтым груба вымагала падарыць. Яна прысуджана на 14 дзён турмы.

СЭЙНЫ. Сюды шукаюць доктара, аптэкара і дантысту. Патрабуюцца таксама цырульнікі і апраўлячы (інтролігатары).

ЦЫГАЛЬНЫ (пад Скандвілямі). Банда разбойнікаў напала на двор Верпанцінскага, зьбіла яго, забіла яго сына і зусім аграбавала хату.

## З Фінляндыі.

ПАРЫЖ (Гавас). Францускі ўрад прарваў свае зносіны з фінляндзкім урадам дзеля незаконнага выбара караля. Выбара нямецкага прынца даволі на тое, каб узяць назад прызнаньне незалежнасьці Фінляндыі.

ГЭЛЬСІНГФОРС. 14.Х. Новавыбраны кароль Фрыдрых-Карл сказаў, што зойме фінляндзкі пасад не раней як за два гады. Да таго часу павінен правіць краем часовы ўрад.

ГЭЛЬСІНГФОРС. 13 кастрычніка быў прачытаны прыгавор над некаторымі членамі сэйму, замяшанымі ў чырвоным перавароце. 6 дэпутатаў засуджаны на сьмерць, рэшта 15 у катаргу да 12 гадоў.

## З Польшчы.

ВАРШАВА. Польскі ўрад стараецца, каб польскія дэлегаты прынімалі ўчасьце на агульным конгрэсе аб міры. У Кіеў, Букарэшт, Бэрн, Копэнгагэн і Штокгольм назначаюцца пасольствы.

ЛЮБЛІН. 14.Х. **Урадова.** Аўстрыяцкі ўрад згаджаецца перадаць упраўленьне аўстрыяцкай часьці Польшчы польскаму ўраду. У замен за гэта Аўстрыя спадзяецца даставаць з Польшчы емінныя рэчы і сырызну. Рэквізыцыі спыняюцца.

ВАРШАВА. На дамаганьне левых партый назначана аднаднеўная забастоўка. Газэты ня вышлі, школы зачынены. Левыя партыі выстаўляюць у лістоўках далёка ідучыя радыкальныя дамаганьні.

## З усяго сьвету.

БЭРЛІН. 15.Х. У нямецкую конституцыю ўносіцца папраўка, згодна з каторай у будучым часе абвяшчэньне вайны, а таксама мір могуць быць толькі з згодай парлямэнту.

БЭРЛІН. За начальніка патайнога імпэратарскага кабінэта заместа ф. Бэрга назначаны б. міністэр Дэльбрук.

БЭРЛІН. Тут гішпанская трасца шырыцца з дня на дзень, так што некаторыя ўстановы з трудом паддзержаваюць сваю працу.

ВЕНА. На аўдыэнцыі членаў парлямэнту ў імпэратара выясьнілі немагчымасьць скласьці міжнароднае міністэрства, бо чэхі і наагул славяне хочуць утварыць свае асобныя гасударствы. У чэскіх землях праклямавана агульная забастоўка, што пашырана навет на тэатры, концэрты і г. д.

ВЕНА. Імпэратар Карл даручыў графу Сільва Торука скласьці новы кабінэт.

ВЕНА. Міністэр міжнародных спраў, граф Буріан падаў у адстаўку.

БУДАПЭШТ. 14.Х. Б. прэзэсу вэнгерскага парлямэнту, Равэй, даручана ўтварыць міністэрства. У яго праграме, між іншым, ёсьць пункт аб перарваньні рэальнае уніі між Аўстрыяй і Вэнгрыяй і радыкалізацыя выбарнага права.

ПРАГА чэская. Тут прыняты энэргічныя меры проціў чэскіх дэмонстрацый. Каб паддзяржаць парадак будуць ужыты кулямёты і ручныя гранаты.

ВЕНА. Вялізарнае жыдоўскае сабраньне прыняло рэзалюцыю, у каторай дамагаецца, каб жыдом было дадзена раўнапраўе між народамі, учасьце жыдоўскіх упаўнамочаных на конгрэсе аб міры і прызнаньне Ерусаліма сталіцай жыдоў.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкія апавяшчэньні.

**15.Х. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* У Фляндрыі непрыяцель пачаў свае сільныя штурмы між Царн і Ліс. Яму ўдалося прайсьці праз нашую пярэднюю пазіцыю. Да палудня бітва задзяржалася на фронце Кортэмарк на ўсход ад Розэляр—Ізэгэм—Мэнен. Папалудні непрыяцель яшчэ ўзяў Гансам і Кортэмарк. На рэшце фронту непрыяцель адкінуты.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* У густым ранішнім тумане непрыяцель перайшоў праз Уаз і часова заняў вышыні на паўдня ад Маркін'і і на поўнач ад Орын'і. Контратакай ён быў скінены ўзноў да Уаз.

*Фронт ф. Гальвіца:* Між Эр і Маас амэрыканцы атакавалі вялікімі сіламі. Чатыры разы робленыя штурмы зламаліся, толькі наабапал Романь непрыяцель пасунуўся трохі.

**16.Х. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* У Фляндрыі непрыяцель далей вёў свае штурмы. На адных мясцох мы ўдзяржаліся, на другіх нашыя войскі б'ючыся адышлі на заднюю лінію. На паўдня Торгу мы ўдзяржалі лінію Ліхтэнвэльт — Ізэгэм. На паўдня ад Ізэгэм непрыяцель перайшоў праз дарогу Ізэгэм-Кортрык.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* Непрыяцель узноў атакаваў пасьля сільнага артылерыйскага прыгатаваньня між Боэн і Уаз. У ваколіцах Ляон заўзятыя бітвы, падчас каторых непрыяцель меў вялікія страты. На фронце Энь разведкі. Дугу між Оле і Гранфрэ, уздоўж Энь, мы пакінулі.

*Фронт ф. Гальвіца:* Між Аргонамі і Маас амэрыканцы вялі свае заўзятыя атакі, каторыя наагул адбіты. Амэрыканцы ўзноў мелі нязвычайна вялікія страты.

### КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. «Berliner Tagbl.» піша аб ваенным палажэньні. „ваеннае палажэньне гэткае, што нямецкія арміі, калі будзе патрэба, могуць зацягнуць вайну на непрыяцельскай зямлі на неаграні́чаны час. З аўтэрытэтных крыніц мы даведаваемся, што абарона бацькаўшчыны і налета забаспэчана, навет пры паўтарэньні няшчасьця, якое здарылася з Баўгарыяй“.

ВЕНА (В.Т.Б.). 14.Х. **Паўднёва-ўсходні тэатр.** Нашае адыходзячае войска мусіць весьці вялікія бітвы з паўстаўшымі цывільнымі жыхарамі ў Сэрбіі.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 15.Х. У Атлянтыцкім акеане нашыя падводныя лодкі затапілі 41.000 тонн, між імі некалькі параходаў-цыстэрнаў і некалькі параходаў з ваеннымі матэр'яламі.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман.» Рэдактар Язэп Салавей.